ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (14) май 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# Езус кліча!

**На здымку:** біскуп Кірыл Клімовіч удзяляе сакрамант святарства брату Алегу Вайцяховічу OFMCap.

**12 мая 2012 года ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы, што ў г. Докшыцы, брат-дыякан з Ордэна Меншых Братоў Капуцынаў Алег Вайцяховіч з рук біскупа Кірыла Клімовіча, пастыра дыяцэзіі св. Юзафа ў г. Іркуцку (Расія), прыняў святарскае пасвячэнне.**

■ **Таццяна Шульгат,** *фота аўтара*

Алег Вайцяховіч нарадзіўся 21 верасня 1985 года ў в. Порплішча. У Ордэн Братоў Меншых Капуцынаў уступіў у 2003 годзе, адразу пасля заканчэння школы. Вечныя шлюбы склаў у 2010 годзе ў Докшыцах, дыяканскае пасвячэнне атрымаў у 2011 годзе ў Закрочыне (Польшча). У 2012 годзе скончыў Люблінскую Вышэйшую семінарыю. Для докшыцкай зямлі гэта чацвёрты свой святар.

"Першыя думкі стаць святаром у мяне з'явіліся у той час, калі я быў міністрантам і мы не мелі ў парафіі свайго святара, а. Тадэвуш Кавальскі прыязджаў да нас з Докшыц, – успамінае сёння а. Алег. – Ужо ў адзінаццатым класе я стаў больш цікавіцца жыццём Ордэна Меншых Братоў Капуцынаў, прымаў удзел у супольных сустрэчах, і ў адзін момант адчуў у сваім сэрцы, што Езус кліча мяне. І я стаў Яго слугой".

Урачыстая святая Літургія сабрала шматлікіх гасцей як з-за мяжы, так і беларускіх святароў, сясцёр і братоў законных, а таксама блізкіх і родных дыякана, якія пажадалі раздзяліць вялікую радасць разам з ім.

На пачатку Літургіі віцэ-правінцыяльны міністр капуцынаў Беларусі а. Андрэй Жылевіч прывітаў усіх гасцей, біскупа Кірыла, які ў недалёкіх 90-х гадах з'яўляўся пробашчам Алега Вайцяховіча ў парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы ў невялікай вёсцы Порплішча Докшыцкага дэканата.

"Святар прыходзіць з людзей, а потым усё сваё жыццё ім жа служыць. Каталіцкія святары пасланыя да кожнага чалавека, хто шукае праўды, каб абвяшчаць Божае слова. Няхай тваё навучанне будзе ежай для народа Божага, і тут не павінна быць нацыянальных і рэлігійных абмежаванняў," – з такімі словамі звярнуўся біскуп Клімовіч да новапрэсвітара.

13 мая а. Алег Вайцяховіч адслужыў прымiцыйную святую Літургію ў сваёй роднай парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы ў Порплішчы. Павіншаваць і падтрымаць свайго земляка прыйшло шмат аднавяскоўцаў, сярод якіх былі і яго школьныя настаўнікі.



**На здымку:** святар Алег Вайцяховіч OFMCap удзяляе Святую Камунію вернікам.

## Са Святам!

*Ваша эксцэленцыя, шаноўны біскуп Уладзіслаў! Віншуем Вас з чарговай гадавінай святарства, якое Вы атрымалі 25 мая 1980 года. Няхай Езус Добры Пастыр дапамагае Вам кіраваць нашай Віцебскай дыяцэзіяй і няспынна ўзмацняе.*

*З нагоды Вашага Дня нараджэння, які Вы святкуеце 31 мая, жадаем Вам шмат здароўя і апекі Маці Божай Браслаўскай. Няхай толькі Бог, якому Вы прысягнулі верна служыць, будзе Вашай мэтай і сэнсам жыцця.*

*Прыміце гэтыя шчырыя віншаванні ад чытачоў і калектыву рэдакцыі "Каталіцкага Весніка".*

## Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2012 года!



**Дарагія сябры!**

Ужо цэлы год, як выходзіць наша газета. Мы вельмі рады, што колькасць падпісчыкаў павялічваецца з кожным месяцам. Сёння іх – 630 чалавек.

Сапраўды, атрымліваць "Каталіцкі Веснік" праз пошту надзвычай зручна. Падпіска – адзіны спосаб пачытаць нашае выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. Мы заахвочваем вас, дарагія нашы чытачы, падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **2000 рублёў**, на тры месяцы – **6000 рублёў**, на шэсць месяцаў – **12000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Інтэрв'ю**
Пра санктуарый у Гудагаі чытайце на стар. 4



**Барсукі**
Пра асвячэнне новай капліцы чытайце на стар.4



**Апытанне**
Якую музыку слухае каталіцкая моладзь? Адказы на стар. 5



**Савуткі**
Пра фэст гарманістаў чытайце на стар. 2





# Сэнс жыцця – узаемадапамога

■ Ірына Грэйць

**У сучасным грамадстве апошнім часам нярэдка матэрыялізуюцца духоўныя каштоўнасці і страчваюцца маральныя ідэалы. Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на маладых людзей, у каго ўсё жыццё наперадзе. Якім шляхам пойдзе кожны з іх?**

Моладзь з Глыбокага, напрыклад, разам з сястрой Ганнай Тарасёнак і кс. Віктарам Мiсевічам 21 красавіка наведалі Бягомльскі інтэрнат для дзяцей з нагоды Вялікадня. Разам з гасцямі маленькія і старэйшыя выхаванцы інтэрната спявалі песні, праслаўляючы Езуса, глядзелі вясёлыя мініяцюры і самі ўдзельнічалі ў конкурсах. Глыбачане падзяліліся сваёй бадзёрасцю і імпэтам з дзецьмі. На тварах 110 хлопчыкаў і дзяўчынакззялі ўсмешкі.

Напрыканцы кожнае дзіця атрымала падарункі. Іх набылі дзякуючы фінансавай падтрымцы апостальскага нунцыя ў Беларусі Клаўдыа Гуджэроці. Кс. Віктар Місевіч завяршыў сустрэчу шчырымі віншаваннямі са святам Уваскрасення, а таксама супольнай малітвай і благаслаўленнем.

У кожнага чалавека павінен быць сэнс жыцця. Добра, калі такі сэнс мы знойдзем у падтрымцы блізкіх і ўзаемадапамозе, як гэта і зрабіла глыбоцкая моладзь.

Мёры

# Ад вікарыя да пралата

**Ксёндз-дэкан Мёрскага дэканата, пробашч Мёрскай парафіі Унебаўзяцця НПМ Крыштаф Міянкіна 17 траўня адзначае 25-годдзе святарства. Нарадзіўся і вырас ён у горадзе Жабна Кракаўскага ваяводства ў пабожнай сям'і.**

■ Вольга Вішнеўская

У 1981 г. паступіў у Чанстахоўскую вышэйшую духоўную семінарыю ў Кракаве, дзе навучаўся шэсць гадоў. На чацвёртым годзе вучобы Крыштафу трапіўся ліст Яна Паўла II, у якім расказвалася, што ёсць краіны, дзе стаяць касцёлы ды няма ксяндзоў, а людзі самі збіраюцца і чытаюць Святую Імшу. Калі ж надыходзіць момант пераўтварэння хлеба і віна ў цела і кроў Езуса Хрыста, то кладуць на алтар арнат і ставяць келіх, але самі захоўваюць цішыню і плачуць, бо няма з імі святара, які мае права здзейсніць гэты абрад. Уражаны такой сітуацыяй малады клерык загарэўся думкай стаць місіянерам. Сакрамант святарства атрымаў 17 траўня 1987 г. у катэдральным касцёле ў Чанстахове.

Спачатку яго накіравалі вікарыем у парафію Пажымехі, затым – у Льготу Вялікую. Сімвалічна, што ў свята Маці Божай Чанстахоўскай, 26 жніўня 1990 г., ксёндз Крыштаф выехаў з Польшчы ў Беларусь. Прыбыў у Гродна, дзе біскуп даў накіраванне ў Браслаўскі раён і адразу на чатыры касцёлы – парафіі ў Опсе, Пеліканах, Далёкіх і Друсвятах. У той мясцовасці ён стаў першым пробашчам пасля вайны, а касцёлы прастаялі роўна 40 гадоў і два дні без святара.

Калі ў 1999 г. была ўтворана Віцебская дыяцэзія, адбыліся змены і ў парафіях. Так з 16 кастрычніка 2000 г. на месца пробашча Мёрскай парафіі кс. Уладзіслава Пятрайціса біскуп Уладзіслаў Блін прызначыў кс. Крыштафа Міянкіну з Опсы.

Сіламі пробашча Крыштафа і вернікаў амаль 6 гадоў рамантаваўся касцёл у Мёрах. Добра падрыхтаваліся да святкавання 100-годдзя святыні ў 2007 г. Сёння ля касцёла ідэальны парадак і мноства розных кветак, пасаджаны невысокія дэкаратыўныя дрэўцы. Дзеці наведваюць катэхезу, а падлеткі – спатканні для моладзі, праводзяцца сустрэчы для сем'яў. Усяго ў нядзелю адпраўляюцца чатыры імшы, а таксама штодзень – ранкам і ўвечары. Дапамагае пробашчу вікарый Аляксандр Півавар.

Традыцыйным стаў конкурс каляднай песні "Зорка Бэтлеема", які ўпершыню адбыўся 11 гадоў таму і працягвае развівацца. У парафіі ёсць хор "Fiat", якому ў гэтым годзе спаўняецца 10 гадоў, а кіруе ім арганістка Анжэла Кіпрушава.

Асабліва ўшаноўваюць у Мёрскай парафіі памяць Яна Паўла II, на цвінтары ёсць помнік яму. Сёлета мёрскія парафіяне атрымалі з Рыма рэліквіі благаслаўлёнага. Упершыню іх ушанаванне адбылося ў чарговую гадавіну смерці Яна Паўла II, а далей вернікі змогуць ушанаваць рэліквіі напрыканцы Святой Імшы кожную першую суботу месяца.

За ахвярную працу на карысць Богу і людзям ксёндз Крыштаф Міянкіна атрымаў у 2008 годзе Папскі тытул пралата, а да гэтага меў званне каноніка.

Дзеркаўшчына

# Адпуст Святога Мікалая

■ Каця Малей

**9 Мая ў Дзеркаўшчынскай парафіі Унебаўшэсця Хрыста вернікі адзначылі ўрачыстасць Святога Мікалая.**

Людзі сабраліся, каб атрымаць адпуст за грахі, папрасіць даравання ў Бога за правіны і падзякаваць Яму за ласку. Бо менавіта ў гэты дзень, калі шчыра паспавядаецца і не мець прывязанасці да граху, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыях Папы Рымскага, пакаранні за грахі адпускаюцца.

Запрошаныя святары з іншых парафій раздзялілі з намі радасць гэтага свята. Кс. Міхаіл Татарэнка з Лужкоў вёў св. Імшу, падчас якой можна было паспавядацца ў кс. Эдуарда Нарадоўскага з Задарожжа. Кс. Андрэй Кулік з Падсвілля, прыгадваючы біяграфію Св. Мікалая, адзначыў, што менавіта за добрыя ўчынкі, за дапамогу і спачуванне людзям память пра яго жыве ў сэрцах хрысціян.

Завяршылася ўрачыстасць працэсіяй, у якой мы, ідучы за Хрыстом, вызнаём сваю веру...

Паставы

# Рытуальная зала пры касцёле

Пастаўскія парафіяне нарэшце дачакаліся запланаванага ксяндзом Анджэем Возьнякам рамонту памяшкання, дзе будзе магчыма годна правесці памерлага ў апошні шлях: адправіць за яго Імшу, памаліцца, паспяваць жалобныя спевы ўсім разам – святарам, родным, блізкім, сябрам.

Памяшканне адпавядае патрабаванням часу, ёсць нават халадзільнае абсталяванне. Інтэр'ер добра прадуманы і аформлены з густам, за што шчырая падзяка Тадэвушу Міхневічу. Пабудова ладзілася на калядныя ахвяраванні нашых вернікаў, а таксама дзякуючы падтрымцы адміністрацыі горада і раёна.

Цяпер усе ахвотныя могуць карыстацца гэтай рытуальнай залай.

*З удзячнасцю ад усіх парафіянаў касцёла Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ у Паставах –*
***Аліцыя Трафімовіч***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: Вольга Гасянец (в. Лаўчынскія, Браслаўскі р-н), Юрый Парфяновіч (г. Браслаў), Станіслаў Вышадка (в. Заварaты, Глыбоцкі р-н), Людміла Кунчэўская (г. Лепель), Камілія Емяльянава (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), Галіна Глушкевіч (в. Віржы, Докшыцкі р-н), Вераніка Абуховіч (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), Вікторыя Свідэрская (в. Коўшалева, Шаркаўшчынскі р-н), Аліцыя Трафімовіч (г. Паставы), Алена Кушаль (в. Асінаўшчына, Докшыцкі р-н), Ганна Януковіч (в. Віржы, Докшыцкі р-н), Антаніна Бабарэнка (в. Віржы, Докшыцкі р-н), Валянціна Янковіч (в. Віржы, Докшыцкі р-н), Алімпія Цішко (в. Віржы, Докшыцкі р-н), Вольга Васілевіч (г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н), Галіна Юхнавец (г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н), Ганна Карніловіч (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас благаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**

## Маленькая Радзіма

***Прысвячаецца касцёлу ў Камаях***

*Святы мой куточак маленькай радзімы,*
*О, светлы мой храм, ты ў сэрцы маім!*
*Так многа разоў я была нешчаслівай,*
*Хацела прыпікнуцца светам тваім.*

*Уваходзіла ў браму – і так білася сэрца,*
*Каціліся слёзы с самотных вачэй.*
*І, просячы Бога, хацела сагрэцца*
*Любоўю святою, каб стала лягчэй.*

*Касцельныя сцены мяне атулялі,*
*Так шчыра глядзелі іконы святых.*
*З любоўю лагоднай да мяне прамаўлялі,*
*Іх словы выводзілі з бедаў любых.*

*Сэрца, як птушка, так хоча ўзлётy.*
*Нямат часу пройдзе – пакіну я дом.*
*Чакаюць мяне свайго лёсу турботы,*
*Але пройдзе час – і вярнуся я знoў.*

*Як і раней, мяне з радасцю прыме*
*Адзіны, апостальскі, вечны мой храм.*
*Суцешыць і з сэрца трывогу ўсю здыме,*
*Залечыць астачу маіх цяжкіх ран.*

**Бажэна Цялега, в. Камаі**

# Мосар запрашае да цвярозасці

**кс. Аляксей Юркайць**

Падтрымліваючы традыцыю, у першую суботу кастрычніка, калі ў 2007 годзе ўжо памерлы ксёндз Юозас Булька разам з прадстаўнікамі груп Ананімных Алкаголікаў (АА) з Беларусі і замежжа заснавалі Алею цвярозасці, кожны год праводзіцца ўрачысты Дзень цвярозасці. А сёлета спаўняецца якраз 5 гадоў Алеі цвярозасці – маленькі юбілей.

У нашым касцёле ў кожную 2-ую нядзелю месяца, як і ў мінулым годзе, а 13:00-й гадзіне адбываецца малітва аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і ўсяго нашага беларускага народа. Молімся ва ўсіх інтэнцыях, якія дасылаюць людзі, перад рэлïквіямі святога Юстына.

З 2008 года Мосар таксама з'яўляецца Зонай цвярозасці.

У гэтым годзе ў першую суботу кастрычніка запрашаем усіх ахвотных на сустрэчу груп Ананімных Алкаголікаў з нагоды 5-ай гадавіны Алеі цвярозасці, пасаджанай групамі АА з Беларусі і замежжа. Запрашаем вас таксама на трохдзённыя рэкалекцыі, якія плануем арганізаваць 5-7 кастрычніка. Кульмінацыяй сустрэчы будзе святкаванне Дня цвярозасці.

# Свята Божай Міласэрнасці ў Мосары

**Свята Божай Міласэрнасці ўстаноўлена ў Каталіцкім Касцёле блаславёным Янам Паўлам ІІ 30 красавіка 2000 года ў сувязі з прылічэннем да ліку святых Фаўстыны Кавальскай – апостала Божай Міласэрнасці – і называецца "нядзеляй Міласэрнасці Божай".**

**кс. Аляксей Юркайць**

Выбар гэтага дня невыпадковы, бо на яго прыпадае актава Уваскрасення Пана, якая завяршае святкаванне Хрыстовай пасхальнай таямніцы. Гэты перыяд у літургіі Касцёла найвыразней указвае на таямніцу Божай Міласэрнасці, якая найбольш поўна была аб'яўлена менавіта ў муцы, смерці і змёртвыхпаўстанні Хрыста.

Святая Фаўстына – Алена Кавальская (сапраўднае імя па-польску: Helena Kowalska). Вядомая як святая «Сястра Марыя Фаўстына Кавальская», манахіня з Ордэну Сёстраў Маці Божай Міласэрнасці ў Каталіцкім Касцёле, перадусім як апостал культу Божай Міласэрнасці.

Святая Фаўстына нарадзілася 25 жніўня 1905 года як трэцяе дзіця ў шматдзетнай сям'і Марыяны і Станіслава Кавальскіх, земляробаў з вёскі Глагавец. Постаць святой Сястры Фаўстыны непарыўна злучана з культам Божай Міласэрнасці. Сам Бог абраў яе як свой інструмент для распаўсюду Яго шанавання. Зрабіў яе сваім голасам. Гэтай простай, але пакорнай манахіні Бог даверыў місію Міласэрнасці.

У дзяцінстве Фаўстына мусіла цяжка працаваць, у пачатковай школе навучылася адзінае чытаць, пісаць і трохі лічыць. У шаснаццаць гадоў пачынае працаваць у якасці хатняй прыслугі. На дваццатым годзе жыцця пасля шматлікіх цяжкасцяў уступіла ў Ордэн Сёстраў Маці Божай Міласэрнасці і пражыла там трынаццаць гадоў. Працавала на кухні, у садзе, пякарні і на фурце ў некалькіх дамах кангрэгацыі, найдаўжэй – у Плоцку, Вільні і Кракаве. Мела досвед моцных спакусаў супраць веры, пачуццё суцэльнай адарванасці ад Бога, а таксама хваробы і неразуменне з боку асяроддзя.

У 1931 годзе ёй з'явіўся Езус, Які прынёс вестку аб Сваёй Міласэрнасці ўсяму чалавецтву. Святая Фаўстына потым напіша ў сваім дзённіку: "Хрыстус загадаў намаляваць убачаны ёю воблік, у якім з Яго грудзей сыходзілі два прамяні – белы і чырвоны, і зрабіць надпіс: "Езу, давяраю Табе!"

Шанаванне Божай Міласэрнасці вельмі хутка распаўсюдзілася па ўсім свеце, стаўшы для вернікаў сімвалам надзеі сярод хаосу і жорсткасцяў сярэдзіны ХХ стагоддзя. Гэтае свята, што завяршае Велікодную Актаву, у Мосарскай парафіі адзначалася асаблівá ўрачыста.

Божая Міласэрнасць – гэта Велікодны дар, атрыманы Касцёлам ад Хрыста Уваскрослага, дар, які Касцёл дае ўсяму чалавецтву.

Сутнасцю культу Божай Міласэрнасці з'яўляецца надзея на Бога. Мы заўсёды павінны памятаць словы святой Фаўстыны: "Калі душа мая прыгнечаная, я думаю толькі аб тым, што Езус поўны дабрыні і міласэрнасці, і няхай нават зямля выслізне ў мяне з-пад ног, я не перастану спадзявацца на Яго".

Прайшоўшы праз усе выпрабаванні, 5 кастрычніка 1938 г. на трыццаць трэцім годзе жыцця Фаўстына адыходзіць да Пана Бога па вечную ўзнагароду. Пахавана ў Лагеўніках (частка Кракава) 7 кастрычніка 1938 года – ва ўрачыстасць Маці Божай Ружанцовай (была гэта таксама першая пятніца месяца). Пры кляштары ў Лагеўніках, дзе знаходзіцца магіла святой, існуе зараз Санктуарый Божай Міласэрнасці.

Культ святой распаўсюджваўся, і 21 кастрычніка 1965 года распачаўся фармальны інфармацыйны працэс адносна жыцця сястры Фаўстыны. Беатыфікаваная яна была ў Рыме 18 красавіка 1993 года Святым Айцом Янам Паўлам ІІ і кананізаваная 30 красавіка 2000 г.

Пасля Святочнай Літургіі ў Мосарскай святыні парафіяне мелі магчымасць у доме святара паглядзець цудоўны фільм пра Божую Міласэрнасць пад назвай "Міласэрнасць – крыніца надзеі для свету" рэжысёра Малгажаты Пабіс. З радасцю і захапленнем усе людзі пасля ўрачыстасці вярталіся дадому.

Міласэрнасць – гэта святло, якое Бог дараваў нам у Святым Хросце. Не дазволім гэтаму святлу пагаснуць! Наадварот, яно павінна ўзрастаць у нас з кожным днём і несці сёння радасную вестку пра Бога-Пераможцу, бо перамога Хрыста – гэта і нашая перамога праз Любоў і Міласэрнасць.

# Фэст гарманістаў у в. Савуткі



**У невялікай вёсачцы Савуткі Шаркаўшчынскага раёна 29 красавіка ва ўспамін святога Юзафа-рамесніка ўпершыню адбыўся фэст гарманістаў. У шэрасці працоўных будняў святы Юзаф, наш апякун, вучыць нас адпачываць, таму на фэст, на свята сабралася ўся вёска.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Пасля ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў душпастыр парафіі ксёндз Аляксей Юркайць, вернікі працягнулі святкаванне разам з глыбоцкімі музыкамі Юзафам і Данілам аж да позняга вечара: спявалі песні, на вогнішчы смажылі каўбаскі, а потым танцавалі прыгожыя даўнейшыя танцы.

Гук інструментаў не пакінуў абыякавым нікога з жыхароў: кожны з настальгіяй успамінаў былыя часы, калі шмат людзей збіралася "на сяло", і ўсе разам весела бавілі час. Няшмат ужо засталося жыхароў, вёска паволі знікае. Але чаканне фэсту святога Юзафа дадае нам сілы, каб і ў наступным годзе мы змаглі праславіць Бога і цудоўна адсвяткаваць!

# Парафіяльная бібліятэка ў Мосары

**Другога красавіка, у другі дзень Велікодных святаў і ў дзень смерці Вялікага Пантыфіка блаславёнага Яна Паўла ІІ, падчас падрыхтоўкі да 1-ай гадавіны беатыфікацыі, якая адбылася 1 мая 2011 года, у Мосары адкрылася парафіяльная бібліятэка.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Кнігазбор пакуль што налічвае толькі каля 400 адзінак. Усе кнігі падзеленыя тэматычна на раздзелы. Асаблівай увагі заслугоўваюць творы блаславёнага Яна Паўла ІІ.

Бібліятэка паўстала дзякуючы людзям і будзе служыць для людзей. Яна толькі пачынае сваё існаванне, і таму кожны можа ахвяраваць кнігі. Усе ахвотныя маюць магчымасць карыстацца бібліятэкай, дзе можна ўзяць кнігу на месяц. Працаваць бібліятэка будзе за 30 хвілін да Святой Літургіі штодня, акрамя панядзелка і аўторка.



Мосарскі "Санктуарый св. Юстына-мучаніка" паступова становіцца духоўным цэнтрам Віцебскай дыяцэзіі. Гэта адбываецца ў тым ліку і дзякуючы створанай прыгажосці, што збірае вакол сябе людзей, якія шукаюць Бога. І адкрыццё бібліятэкі пры Касцёле – гэта вялікая радасць для парафіянаў і жыхароў навакольных вёсак і гарадоў. Многія людзі змогуць карыстацца духоўнай і рэлігійнай літаратурай. Па ініцыятыве душпастыра парафіі ксяндза Аляксея Юркайця і дзякуючы добрым парафіянам адбылася гэтая доўгачаканая падзея.

Трэба адзначыць, што ў нашай краіне загадам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 2011 года (№ 618) 2012-ы абвешчаны годам Кнігі. Нагадаем таксама, што ў верасні ў Глыбокім адбудзецца рэспубліканскае свята "Дзень беларускага пісьменства". Таму адкрыццё парафіяльнай бібліятэкі ў Мосары з'яўляецца добрым знакам, што жыхары раённых цэнтраў Паўночнага рэгіёна змогуць больш чытаць духоўную і рэлігійную кнігу.

# Маці Езуса і наша Маці

**Асаблівую пашану ў маі каталіцкі Касцёл аддае Маці Божай. У невялікім мястэчку Гудагай, што на Гродзеншчыне, ёсць санктуарый Найсвяцейшай Панны Марыі. Тут працуюць браты-кармеліты босыя. Таму айцец Казімір Мараўскі OCD расказаў "Каталіцкаму Весніку" пра адзін з санктуарыяў у Беларусі.**

***Гутарыла Ірына Грэйць***



**– Тут, у Гудагаі, працуюць браты-кармеліты. Раскажыце, калі ласка, пра вашу паслугу на хвалу Бога ў гэтым цудоўным краі.**

– З 1764 года, адразу пасля збудавання касцёла і манастыра, фундатары запрасілі кармелітаў босых працаваць у Гудагай, каб апекавацца іконай Маці Божай. У 1832 годзе царскія ўлады выгналі братоў-кармелітаў. Настаў цяжкі час для гудагайскага касцёла. Але ў 1990 кармеліты босыя вярнуліся ў Гудагай. І цяпер Маці Божая дапамагае ў парафіяльнай працы, у рабоце з дзецьмі і з моладдзю, у правядзенні ўрокаў рэлігіі, у малітоўным жыцці.

**– Як і чаму ў вашым ордэне ўшаноўваюць шкаплер?**

– Шкаплер – гэта адзін з сакрамэнталіяў Касцёла. Праз шкаплер Марыя дала нам асаблівую дапамогу, вельмі патрэбную на штодзённым шляху да вечнага жыцця. Кармеліцкі шкаплер з'яўляецца знакам апекі і заступніцтва Марыі.

16 ліпеня 1251 года святому кармеліту Сымону Стоку з'явілася Маці Божая. Яна дала яму шкаплер як знак збаўлення і абароны са словамі: "Прымі, сын мой наймілейшы, гэты шкаплер як знак маёй любові і апекі. Хто будзе пабожна насіць шкаплер і ў ім памрэ, той не спазнае агню пякельнага. А ў першую суботу пасля смерці Я выведу душу з Чысца". Той, хто носіць шкаплер Марыі, павінен захаваць чыстасць. Незалежна ад таго, святар ты або просты чалавек, ты павінен прымаць сакраманты і пераймаць Марыю ў святым жыцці. Кожны чалавек, які хоча быць святым, можа прыняць шкаплер. Ён прымаецца з рук святара. Прыняўшы шкаплер, патрэбна запісацца ў "шкаплерную кнігу".

**– Якімі цудамі і ласкамі апошнім часам Маці Божая Гудагайская надзяляла людзей?**

– Людзі пішуць просьбы і падзякі, якія мы чытаем кожную суботу падчас няспыннай Навэнны да Маці Божай Шкаплернай. У сваіх малітвах усім сэрцам і душой яны просяць і атрымліваюць духоўнае і фізічнае аздараўленне. Напрыклад, ужо шмат чалавек пазбавілася ад алкагольнай залежнасці. А апошнім часам Маці Божая адорвае ласкай мацярынства нават тых жанчын, каму ўрачы не давалі ніякай надзеі.

Круглы год людзі прыходзяць і прыязджаюць да Маці Божай. Пару слоў пра паломніцтвы ў мястэчка Гудагай.

З розных куткоў Беларусі на працягу года да Маці Божай прыязджаюць людзі. Найбольш іх прыходзіць пешшу на свята Маці Божай Шкаплернай 16 ліпеня. У 2012 годзе гэтае свята будзем адзначаць 14 і 15 ліпеня. Людзі прыходзяць з Астраўца, Сол, Дайлідак, Ашмян, Мінска. Пілігрымы ідуць да Маці Божай, а таксама на Гудагайскую Кальварыю – крыжовы шлях, які знаходзіцца паміж палёў і лясоў гэтага маляўнічага кутка. Многія старэйшыя людзі ўспамінаюць Віленскую Кальварыю, да якой пілігрымавалі ў мінулым.

**– Як трапіць на сустрэчы ў гонар Маці Божай Шкаплернай?**

– 5 мая 2012 года ў Гудагаі адбылася сустрэча малітоўных груп Гродзенскай дыяцэзіі. Разам са сваімі святарамі ў спатканні ўдзельнічала каля 200 чалавек. Вернікі слухалі канферэнцыю, прымалі ўдзел ў Святой Імшы, адаравалі Найсвяцейшы Сакрамант. На гэтым спатканні людзі цалкам ахвяравалі сябе і сваё жыццё Маці Божай.

6 мая Касцёл адзначае Дзень Маці. Людзі ідуць на Кальварыю, адаруюць Найсвяцейшы Сакрамант, удзельнічаючы ў Святой Імшы. Кожнай маці ўдзяляецца бласлаўленне. 2 чэрвеня ў 17.00 адбываецца Кальварыя з нагоды Дня Бацькі. 14 ліпеня Гудагай запрашае ўсіх на сустрэчу сем'яў Беларусі. 15 ліпеня адбудзецца фэст Маці Божай Шкаплернай. Санктуарый наведваюць і пілігрымы з Віцебскай дыяцэзіі. Таму мы разам з Маці Божай сардэчна ўсіх чакаем у Гудагаі.

**Даведка "Каталіцкага Весніка"**

Мястэчка Гудагай – вёска ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці, на трасе Ашмяны – Астравец, недалёка ад чыгуначнай лініі Калінінград – Вільня – Мінск – Масква.

Адрас: 231200, м. Гудагай, Астравецкі р-н, Гродзенская вобласць.

Тэл.:8 (01591) 2–86–62



Кармеліцкі шкаплер

# Новая святыня ў Барсуках

**У нядзелю, 22 красавіка, вялікая падзея адбылася ў в. Барсукі Докшыцкага раёна. Парафію наведаў біскуп дыяцэзіі Уладзіслаў Блін. Пастыр прыбыў, каб асвяціць збудаваную капліцку і сустрэцца з вернікамі. На ўрачыстай Святой Імшы прысутнічалі святары з Докшыцкага дэканата і з іншых дыяцэзій. Біскуп Уладзіслаў у звароце да сабраных вернікаў сказаў: "Любіце адно аднаго! Будзьце жывым Касцёлам!"**

**кс. Віктар Мiсевiч**, *тэкст;* **Мікіта Бобрык**, *фота*



Жадаючы падкрэсліць важнасць будаўніцтва Касцёла-супольнасці, іерарх удзяліў сакрамант Хросту двум дзеткам. Ён таксама заахвоціў бацькоў і хросных клапаціцца, каб іх дзеці ўзрасталі ў веры.

Капліца ў Барсуках носіць тытул Святога Юрыя. Праз заступніцтва гэтага нябеснага апекуна адбылося асвячэнне і намашчэнне сценаў храма. Як справядліва зазначыў пробашч кс. Юрый Бараўнёў, гэты абрад здзейсніў перамяненне будынка. Напачатку гэта быў звычайны пасялковы дом, а цяпер – святыня.

Кс. Юрый Бараўнёў, які перажываў у нядзелю пярэдадзень свайго Дня народзін, шчыра падзякаваў прысутным прадстаўнікам улады і мясцовых гаспадарак за дапамогу ў будаўніцтве маленькага касцёла. Ён скіраваў словы падзякі таксама да сваіх парафіян, што руплiва падрыхтавалі ўрачыстасць, а таксама падзякаваў парафіяльнаму хору з Мёраў за музычнае суправаджэнне літургіі.

Пасля набажэнства адбыўся канцэрт у мясцовай школе, які падрыхтавалі самі выхаванцы пад кіраўніцтвам дырэктара ўстановы.

На беларускай зямлі заўсёды былі храмы, таму што сэрца беларуса – рэлігійнае і "неспакойнае", як сказаў бы св. Аўгустын. Яно няспынна шукае Бога. Няхай жа касцёл у Барсуках будзе такім месцам, дзе чалавек заўсёды знойдзе свайго Стваральніка і Збаўцу!

# Музыка вакол нас

**Музыка паўсюль. Без яе немагчыма ўявіць наша жыццё. Але музыка павінна духоўна ўзбагачаць, даваць асалоду, натхненне…**

**У фільме пра музыку, веру і любоў "August Rush" можна пачуць такія словы: "Музыка – маленькае прыпамінанне пра Бога, пра тое, што існуе штосьці большае ў гэтым свеце, чым мы". У сённяшнім нумары паразважаем над тым, якая музыка ўзбагачае кожнага з нас.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Андрэй Юркайць:**
– Да музыкі стаўлюся станоўча, але асобнага музычнага напрамку не выбіраю. Можна сказаць, я меламан. Я лічу, што музыка павінна быць з сэнсам. Няважна, які гурт ці спявак выконвае песню, важна, як гэта песня пранікае ў душу слухача. Музыка дапамагае перажыць розныя жыццёвыя сітуацыі: калі сумна – музыка нас падбадзёрыць і радасць яна з намі падзеліць. Але не трэба музыку рабіць сэнсам свайго жыцця, фанатычна ставіцца да пэўнага музычнага напрамку, гурта ці спявака. Музыка павінна нас падтрымліваць, а не знявольваць.



**Аляксандра Замара:**
– Апошнім часам мне падабаецца Urszula Stańczyk і яе "Polski teolog Karol Wojtyła". Гэта, я лічу, вельмі прыгожая і кранальная песня. Цудоўная музыка ў каталіцкага гурта "Ave". Асабліва песні "Другу" і "Утро". Апошнюю раю паставіць на будзільнік! Выдатныя хіты ў гурта "Подых Духа". Дарэчы, 26 мая адбудзецца іх канцэрт у Пінску. Над некаторымі момантамі жыцця прымушае задумацца песня Noize MC «Ругань из-за стены».



**Павел Падрэз:**
– Гэта даволі цяжкае пытанне. Шмат залежыць ад унутранага стану і настрою. Калі хочацца адчуць нейкі спакой ці проста палётаць у думках, вельмі дапамагае ісландская музыка. Напрыклад, ісландскі пастрокавы гурт Sigur ros або спявачка Bjork, брытанскі гурт Radiohead. Таксама супакоіць можа звычайная класічная музыка. Я вельмі люблю Баха. Калі працую, у фонавым рэжыме гучаць грыгарыянскія напевы. Калі ўзрушаны стан, вельмі лёгка слухаецца indie, klassik rock, raggae. У адзіноце лёгка памаўчаць з якім-небудзь бардам. Вельмі падабаюцца каталіцкія спевы, бо з імі і сумаваць прыемна і весяліцца добра.



**Юлія Данешчык:**
– У Мэджугоры заснавана шмат малітоўных груп, што праслаўляюць Бога спевамі. Таму мне вельмі падабаецца такі спосаб праслаўлення. Духоўна ўзбагаціцца дапамагаюць песні да Духа Святога. З беларускіх гуртоў слухаю спевы "Ave". Дапамагае ў малітве інструментальная, спакойная музыка.



**Андрэй Калошыч:**
– Кожнаму чалавеку падабаецца розная музыка, якая дапамагае духоўна перажыць усялякія жыццёвыя выпадкі. Асабіста я слухаю музыку пад свой настрой. Гэта можа быць і рок, і электронная музыка, і класіка. Кожны музычны напрамак дапамагае мне справіцца з мінулым днём. Менавіта цяпер я слухаю больш спакойную музыку, каб самому крыху супакоіцца. Бо час набліжаецца да летняй сесіі. Таксама я часта сам для сябе спяваю песні, у якіх праслаўляю Бога.



## Запрашаем на Урачыстасць у Мосарскі "Санктуарый" святога Юстына-мучаніка 2-3 чэрвеня 2012 года

Вірлівыя каляіны амаль трохсотгадовай гісторыі рэліквій святога Юстына-мучаніка на беларускай зямлі заахвочваюць нас схіліць калені ў мосарскім "Санктуарыі св. Юстына".

Рэліквіі св. Юстына былі прывезеныя з Рыма ў 1754 годзе і 84 гады захоўваліся пад апекай айцоў-кармелітаў босых у Старым Мядзелі, а з 1838 года знаходзяцца ў касцёле святой Ганны ў в. Мосар Глыбоцкага раёна.

У міжваенны перыяд людзі прыходзілі ў Мосар, каб вымаліць праз заступніцтва святога Юстына Божыя ласкі. Культ святога быў каласальны, і вотаў падзякі, якіх налічвалася 38, былі змешчаныя каля алтара і сведчылі пра цудоўныя аздараўленні вернікаў.

Зараз культ святога мучаніка адраджаецца, і шматлікія людзі – як каталікі, так і праваслаўныя – прыязджаюць у Мосар, каб памаліцца перад рэліквіямі. Асабліва ўшаноўваецца святы Юстын 1 чэрвеня, ва ўспамін яго ў Касцёле. Натоўпы пабожных людзей збіраюцца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і блаславенне, пра якія і прыходзяць прасіць святога Юстына.

**Святкаванне ў гэтым годзе будзе па наступным раскладзе:**

**2 чэрвеня (субота)**

**13:00** - Святая Імша з казаннем.
**14:00 – 17:30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў капліцы.
**17:30** – малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.
**18:00** – Святая Імша з казаннем.

**3 чэрвеня (нядзеля)**
**Урачыстасць Святога Юстына-мучаніка**

**10:00** – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
**11:00 – 12:30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў капліцы.
**12:30** – Літанія да святога Юстына за сем'і, моладзь і дзяцей.
**13:00** – Урачыстая Святая Імша з Працэсіяй.
**14:30** – Выступленне народнага фальклорнага мастацкага ансамбля "Паазер'е".

*Ксёндз Аляксей Юркайць*

## Сустрэча дзяцей і моладзі ў Далёкіх

**14 красавіка 2012 года ў аграгарадку Далёкія Браслаўскага раёна ў парафіі Святога Станіслава адбылася дэканальная сустрэча дзяцей і моладзі з Відзаў, Опсы, Пеліканаў, Дрысвятаў і Пагошча.**

**Ірына Высоцкая**

Распачалося спатканне ў касцёле хвалебнай часткай ружанца. Прадстаўнікі кожнай парафіі маліліся па адной таямніцы, а на заканчэнне ўсіх прысутных паблаславіў ксёндз-дэкан Альфрэд Пяхота.

Удзельнікі і госці мелі магчымасць пагледзець выставу фотаздымкаў, якая адлюстроўвае жыццё парафій. Апрэзентацыю парафій пачалі юнакі з Відзаў. Яны расказалі пра гісторыю сваёй парафіі і касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Аповяд суправаджаўся паказам фотаздымкаў. На памяць пра сустрэчу кожнаму з прысутных госці падарылі паштоўку з відам свайго касцёла.

Дзеці з парафіі Святога Станіслава рэпрэзентавалі дзве кампазіцыі: "Хто пабудаваў гэты дом?" і "Велікодны букет".

Потым сустрэча прадоўжылася ў плябаніі: свае камп'ютарныя прэзентацыі паказвалі прадстаўнікі з Дрысвятаў і Далёкіх. Было паведамлена пра гісторыю касцёлаў, пра жыццё парафій, пра святароў, а таксама паказаныя цікавыя фотаздымкі родных мясцін.

Напрыканцы гасцей чакаў пачастунак, які з вялікай радасцю падрыхтавалі парафіяне.

Такія сустрэчы неабходныя для пашырэння ўзаемаадносін з суседнімі парафіямі. І кожнае падобнае пачынанне будзе ўдалым, таму што яно асвечана Божай ласкай.



# Біскупская візітацыя ў Друі

**6 мая, у цёплы і сонечны дзень, Друйская парафія вітала пастыра Віцебскай дыяцэзіі – ардынарыя Уладзіслава Бліна, які прыбыў у Друйскі касцёл з нагоды візітацыі парафіі.**

**Кацярына Лаўрыненка**

На гэты год прыпадаюць 85-ая гадавіна смерці і 25-ыя ўгодкі беатыфікацыі блаславёнага Юрыя Матулевіча, які адыграў выключную ролю ў дзейнасці марыянскай супольнасці. Ён не толькі аднавіў супольнасць марыянаў, што фактычна памірала, але і ўнёс новыя духоўныя акцэнты ў яе дзейнасць, выказаныя ў дэвізе Pro Christo et Ecclesia – за Хрыста і Касцёл. Таму сёлетні год у марыянскай супольнасці абвешчаны годам бл. Юрыя Матулевіча. А ў 1923 годзе бл. Юры Матулевіч заснаваў у Друі кляштар айцоў-марыянаў і Кангрэгацыю Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі.

Разам з біскупам на Святую Імшу прыбыў і Мёрскі дэкан, ксёндз-прэлат Кшыштаф Менкіна. На пачатку Святой Імшы біскупа Уладзіслава Бліна прывіталі адміністратар парафіі айцец Пётр Бярнацкі MIC і прадстаўнікі парафіяльных супольнасцяў. Паколькі біскуп Уладзіслаў Блін як пастыр Віцебскай дыяцэзіі з'яўляецца пробашчам усіх парафій, у тым ліку і Друйскай, мясцовыя парафіяне ўручылі яму сімвалічны ключ ад касцёла.

Асабліва кранальна прагучалі словы ў прывітанні маленькай дзяўчынкі, якая ад імя дзяцей Друйскай парафіі выказала радасць, што сёння мы "бачым так блізка нашага біскупа". У сваёй гаміліі, адказваючы на гэта, біскуп заклікаў усіх быць блізка да Езуса. Ён прыпомніў, што мы з'яўляемся галінкамі вінаграднай лазы, якой ёсць Езус. Сучасны свет імкнецца адарваць нас ад гэтага. Але адсечаныя галінкі сохнуць і паміраюць. Плён даюць толькі тыя, якія моцна трымаюцца за галоўную.

Літургію ўпрыгожыў сваім спевам і граннем на скрыпках хор Друйскай парафіі пад кіраўніцтвам Валянціны Віктараўны Казакевіч, якая шмат гадоў з'яўляецца нязменнай арганісткай і кіраўнічкай хору ў касцёле. Прыгажосць спеваў хору адзначыў ксёндз-біскуп. Ён расказаў прысутным, што калісьці, праязджаючы праз Друю, завітаў у касцёл падчас Імшы і вельмі цешыўся, слухаючы, як Друйскі хор праслаўляе Пана Бога… А напрыканцы Імшы біскуп падарыў кветкі ў знак удзячнасці Валянціне Віктараўне, а таксама сёстрам-эўхарысткам, якія працуюць у парафіі.

Падчас Святой Імшы паслугу ў канфесіянале нёс вікарый парафіі ксёндз Антоні Лось MIC.

Пасля Імшы моладзь зладзіла канцэрт. Група скрыпачак разам з Валянцінай Віктараўнай выканала для прысутных некалькі запальных мелодый, цудоўныя песні праспявала вакальная група. Дзяўчаты з дзіцячага дома прадэманстравалі некалькі танцаў. Напрыканцы моладзь Друйскай парафіі разам з айцом Пятром і сёстрамі-эўхарысткамі паказалі біскупу плакат, дзе размешчаны запамінальныя кадры з жыцця парафіі. "Сягнулі белай птушкай у блакіце касцёла Друйскага крыжы. І Божая любоў паўсюль іскрыцца, блаславаляючы жывое на зямлі".

Пазней каля касцёла для ўсіх прысутных быў наладжаны пачастунак. Парафіяне разам з біскупам частаваліся смачным пловам ды рознымі ласункамі. А дзеля таго, каб усе маглі падсілкавацца, шчыравалі Данута Напалеонаўна Плошкіна і Леаніда Іванаўна Саруль.

Падчас візітацыі парафіі біскуп наведаў і дом сясцёр-эўхарыстак у Друі, каб разам з гаспадынямі памаліцца ў капліцы дома.

Візітацыя парафіі – гэта не толькі спатканне з ардынарыем дыяцэзіі, але перадусім справаздача, якім чынам ідзе душпастырская праца, і што зроблена за апошнія пяць гадоў, г.зн. з часу апошняй візітацыі. На сённяшні дзень у Друйскай парафіі дзейнічаюць хор, моладзевы гурт "Светач", кола Жывога Ружанца, супольнасць духоўнага ўсынаўлення. Вядома ж, ёсць і міністранты. Асаблівая роля ў парафіі надаецца працы з дзецьмі і моладдзю. Гэта не толькі сённяшняя патрэба, але і праця традыцыі. У міжваенны час у мурах Друйскага кляштара айцы-марыяне праводзілі гімназію, якая з'яўлялася цэнтрам хрысціянскай духоўнасці і адукацыі. Увогуле з Друйскім кляштарам у міжваенны перыяд былі звязаныя імёны такіх выбітных постацяў, як кандыдаты на Алтар а. Андрэй Цікота і а. Фабіян Абрантовіч, а. Язэп Германовіч, а. Казімір Смулька, а. Віталіс Хаменак, а. Яўген Кулеша. Менавіта з Друйскага кляштара выехалі ў Росіцу яе блаславёныя пакутнікі Юрый Кашыра і Антоній Ляшчэвіч. Так што друйскай моладзі сапраўды ёсць з каго браць прыклад.

Дарэчы, у Друі знаходзіцца дзіцячы дом. Большасць яго выхаванцаў – сіроты пры жывых бацьках. Зразумела, што дзеці тут маюць і ежу, і адзенне, але самае галоўнае ў жыцці – Бога – яны атрымліваюць менавіта дзякуючы айцам-марыянам і сёстрам-эўхарысткам, якія даюць сведчанне сваёй верай і прыклад хрысціянскага жыцця.

Катэхізацыяй дзяцей і моладзі ў парафіі займаюцца с. Наталля Арлянковіч SJE і с. Ганна Мізавец SJE. На сённяшні дзень у катэхетычных занятках прымаюць удзел 45 дзяцей.

На працягу года ў кляштар прыязджаюць дзеці і моладзь з розных куткоў Беларусі на рэкалекцыі, дні малітвы і канікулы з Богам. Старэйшыя сёстры ў парафіі – с. Фэлікса Журня SJE і с. Эдуарда Мароз SJE – дапамагаюць перадусім сваёй малітвай.

Духоўны спакой і магчымасць весці сакраментальнае жыццё, нягледзячы на хваробы і ўзрост, дзякуючы айцу Пятру Бярнацкаму MIC маюць і насельнікі дома-інтэрната для старэйшых асобаў, што таксама знаходзіцца ў Друі.

З душпастырскай паслугай даязджае а. Пётр Бярнацкі MIC таксама ў капліцу в. Малькаўшчына, а яшчэ ў в. Бабарыкі, дзе Імшу святар адпраўляе ці ў прыватнай хаце, ці пад адкрытым небам каля крыжа.

Як бачна, працы ў Друйскай парафіі сапраўды хапае. Але ж і праца гэта радасная, бо нясеш людзям Хрыста. А ўсе цяжкасці і праблемы заўсёды пераадольваюцца з дапамогай Пана Бога і Найсвяцейшай Панны Марыі.



# Развітанне са святаром



**Кацярына Лаўрыненка**

**9 мая 2012 года адышоў у вечнасць ксёндз-канонік Уладас Пятрайціс. Святар-літовец, які ўсім сэрцам любіў Беларусь і так шмат зрабіў для адраджэння Касцёла ў нашай краіне.**

Ён нарадзіўся 20 студзеня 1955 г. у в. Пацэнуляй Радвілішкскага раёна ў Літве. Вучыўся ў духоўнай семінарыі ў Каўнасе. Святарскае пасвячэнне атрымаў 14 мая 1985 г. у Жасляі. Аднак неўзабаве ён быў вымушаны з'ехаць з Літвы. У свой час у Каўнасе хлопец Раманас Каланта зрабіў самаспаленне, пратэстуючы супраць савецкай улады. Ксёндз Уладас напісаў верш на ягоную смерць, у выніку ў яго пачаліся непрыемнасці. Таму ён выехаў у Беларусь, дзе ў лістападзе 1985 г. распачаў сваю працу ў Мёрах. Тут і нёс пастырскую паслугу да 2000 г.

Менавіта працуючы ў Мёрах, ён пачаў маліцца па-беларуску: на пачатку – з паперкі, потым дасканала вывучыў беларускую мову, цудоўна на ёй размаўляў, гаварыў казанні. Перакладаў малітвы з польскай мовы на беларускую. Гімн да Святога Духа, які выкарыстоўваецца ў літургіі, пераклаў якраз ксёндз Уладас. Дарэчы, вершы ён пісаў як на сваёй роднай літоўскай, так і па-беларуску, якая таксама стала для яго роднай. Хвароў душой за Беларусь і яе будучыню. Многія памятаюць прамову святара ў абарону крыжа Хрыста ў 1995 г.

У 1992 г. ксёндз Уладас арганізаваў першую пешую пілігрымку з Мёраў да Будслава. Потым былі пілігрымкі па святынях Прыбалтыкі, у прыватнасці, у Аглону. Ён арганізаваў аўтобусныя пілігрымкі ў Беласток і Вільню, на спатканне з Папам Рымскім бл. Янам Паўлам II. Ладзіў у Мёрах моладзевыя фестывалі, разам з пісьменніцай і журналісткай Ірынай Жарнасек выдаваў адно з першых беларускамоўных каталіцкіх выданняў – газету "Голас Душы".

Асабліва святар клапаціўся пра абарону жыцця ненароджаных. Менавіта ён паставіў помнік ненароджанаму дзіцяці перад касцёлам у Мёрах, на той час першы ў Еўропе. Добра памятаецца яго інтэрв'ю Ірыне Жарнасек у абарону ненароджаных, якое было надрукавана ў дадатку да "Ave Maria" "Дар жыцця". Гэта мела свой плён – некалькі дзяцей былі ўратаваныя ад аборту.

Шмат пра што сведчыць і такі факт: за час служэння ксяндза Пятрайціса якраз з Мёраў было найбольш пакліканняў да святарства і манаскага жыцця. Прыгадаем, што акурат яго намаганнямі была пабудавана капліца на новых парафіяльных могілках у Мёрах. А на пачатку сваёй дзейнасці ён, дарэчы, як душпастыр абслугоўваў не толькі Мёры.

Ксёндз Уладас не быў прывязаны да матэрыяльных рэчаў, вельмі любіў птушак, мноства якіх трымаў у сябе, а таксама кветкі. Быў генератарам розных ідэй і проста вясёлым чалавекам, заўсёды ўсміхаўся. Але пісьменніца Ірына Жарнасек адзначыла пры гэтым і пэўную надламанасць у ім.

З 2000 па 2008 гг. ксёндз Пятрайціс быў адміністратарам парафіі Божага Провіду ў Слабодцы Браслаўскага дэканата. У гэтай парафіі ён устанавіў помнік Еўфрасінні Полацкай. У 2001 г. Віцебскі ардынарый Уладзіслаў Блін менаваў ксяндза Пятрайціса канонікам Віцебскай катэдры. З 2008 г. па дзень смерці ксёндз Уладас быў адміністратарам парафіі Божага Цела ў Іказні Браслаўскага дэканата. Служэбе Касцёлу ў Беларусі ён аддаў 26 з паловай гадоў і ўсяго некалькі дзён не дажыў да 27-годдзя свайго святарскага пасвячэння.

13 мая труна з целам спачылага святара была прывезена ў касцёл у Слабодцы, дзе адбыліся малітоўнае чуванне і Святая Імша. 14 мая магчымасць развітацца са сваім пастырам атрымалі парафіяне касцёла ў Іказні. У гаміліі падчас Імшы ў Іказні кс. Сяргей Сурыновіч успомніў, што для клерыкаў яго пакалення святары, якія пачалі сваю паслугу ў нялёгкія часы адраджэння, былі пэўным сімвалам. На іх глядзелі з надзеяй, як на падмурак Касцёла сучаснага.

Увечары таго ж дня труна была перавезена ў Мёрскі касцёл, дзе ўсю ноч працягвалася "адарацыя развітання". На пахавальную Святую Імшу 15 мая, якую ўзначаліў віцебскі ардынарый Уладзіслаў Блін, сабраліся святары і сёстры законныя з усёй дыяцэзіі, а таксама шматлікія вернікі. У сваёй гаміліі падчас пахавальнай Імшы а. Аляксандр Шамрыцкі MIC сказаў, што дзякуючы ксяндзу Уладасу ён вынес тры ўрокі: першы – урок любові да гэтай зямлі і народа, які на ёй жыве; другі – урок любові да роднай мовы. Ксёндз Пятрайціс казаў: "Вы, беларусы, павінны маліцца па-беларуску". Трэці ўрок – асоба пастыра, калі развалілася маё пакліканне. Дзякуючы яму прыйшло ўсведамленне, што Касцёл з'яўляецца асяроддзем жывых, дзе віруе жыццё, дзе хочацца быць.

Цёплыя словы на развітанне прамовілі біскуп Кірыл Клімовіч і ксёндз Эдмунд Даўтіловіч-Навіцкі, якія ў свой час разам працавалі са спачылым святаром. Развітаўся з ксяндзом і віцебскі ардынарый Уладзіслаў Блін.

Пахавалі ксяндза Уладаса Пятрайціса каля Мёрскага касцёла. Там, дзе ён пачынаў сваё служэнне Богу і Касцёлу ў Беларусі.

# Сустрэча на зямлі пад крыламі любові

**21 красавіка адбылася Велікодная сустрэча Братоў і Сясцёр III Ордэна Святога Дамініка ў Беларусі. Усе сабраліся разам, каб у духу братняй любові павіншаваць адно аднаго са святам Хрыстовага ўваскрасення, каб у гэты цудоўны перыяд быць у супольнасці – разам маліцца, умацоўвацца ў веры і проста адпачываць.**

■ **Марыя Ганчаронак,** *г. Полацк*

Сустрэча распачалася ў Баранавічах (што на Брэстчыне) – на зямлі пад крыламі любові. Гэтую мясцовасць так называюць не толькі таму, што яна багатая буслaмі – птушкамі, якія сімвалізуюць дабрыню і любоў, але і таму, што цягам гісторыі тут асаблівым чынам праяўлялася Божая любоў.

Цэнтрам спаткання стала Святая Імша. Адбылася яна ў Лагішыне пад позіркам Маці Божай Лагішынскай – Каралевы Палесся. У гаміліі айцец Раман Шульц OP (духоўны кіраўнік братоў і сясцёр III Ордэна Святога Дамініка ў Беларусі) звярнуў асаблівую ўвагу на вартасць малітвы ў нашым штодзённым жыцці. Толькі малітва можа змяніць свет, але, перш за ўсё, нас саміх. Толькі малітва можа начыніць нашыя сэрцы плённай зямлёй, на якую сыдзе Божае Слова і прынясе плён.

Пасля Эўхарыстыі вандроўка працягнулася далей. Наступным прыпынкам стала Янава – месца, дзе быў замучаны і забіты Святы Андрэй Баболя. Андрэй Баболя хадзіў праз балоты з вёскі ў вёску, несучы святло Божай праўды ў самыя аддаленыя куточкі Палесся. Дзякуючы яго намаганням шмат людзей навярнулася да Бога і паяднапася з Каталіцкім Касцёлам. З-за гэтага Андрэя Баболю называлі апосталам Піншчыны і «душахватам».

Апошнім прыпынкам стаў Пінск. Тут Браты і Сёстры наведалі Катэдральны Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, месца пахавання святой памяці Казіміра Свёнтэка.

Скончылася вандраванне шпацырам уздоўж ракі Піна і вяртаннем дадому. Дарэчы, у спатканні прынялі ўдзел браты з Баранавіч, Віцебска, Мінска і Полацка. Такой вось незабыўнай атрымалася сустрэча на зямлі пад крыламі любові.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**15 мая 2012 г. Ян, 15,9-17**

Езус нас любіць. Хоча, каб мы не страцілі гэтую любоў, але трывалі ў ёй. Як гэта зрабіць? Трэба захоўваць Яго загады. Гэта прывядзе нас да еднасці з Айцом. А еднасць будзе прычынай удзелу ў сапраўднай радасці. Яшчэ Езус заклікае нас да ўзаемнай любові. Ён першы нас палюбіў і хоча, каб мы любілі адно аднаго. Жывучы ва ўзаемнай любові, становімся Яго сябрамі. Наш Сябар дапускае нас да ўдзелу ў чымсьці вялікім. Удзельнічаем у тым, што Ён будуе разам з Айцом – Божае Валадарства. Толькі тады наша плённасць будзе поўнай, калі будзем узаемна любіць адно аднаго.

*– Ці памятаю, што Езус зрабіў для мяне?*

*– Ці між штодзённых спраў напамінаю сабе, што Ён аддаў за мяне жыццё?*

*– Ці хачу захаваць глыбокую сувязь з Езусам?*

*– Ці разумею, што гэта Ён запрашае мяне да сяброўства з Ім?*

*– Ці хачу так, як мой Сябар, будаваць любоў?*

*– Ці клапачуся пра ўзаемную любоў паміж вучнямі?*

*– Як стаўлюся да братоў у веры?*

*– Ці шукаю ў іх падтрымкі?*

*– Ці з'яўляюся сам падтрымкай для іх?*

*– Ці змагаюся за еднасць у супольнасці Касцёла?*

*– Ці памятаю, што ўзаемная любоў ёсць умова плённага дзеяння Касцёла?*

*– Можа, раз'ядноўваю Касцёл?*

*– Можа, распаўсюджваю ў ім нянавісць, зло, зайздрасць, пажадлівасць і крывадушнасць?*

*– Ці стараюся ўладзіць цяжкасці, якія ўзнікаюць у супольнасці?*

*– А можа, абыходжу тое, чым мог бы заняцца?*

*– Ці маю сяброў, з якімі спрабую будаваць узаемную любоў і Касцёл?*

**20 мая 2012 г. Ян 17,11в-19**

Езус моліцца за сваіх вучняў, каб у час жыццёвых выпрабаванняў трымаліся Божай навукі. Еднасць з Богам будуе еднасць паміж вучнямі. Вучні – удзельнікі еднасці Айца і Сына. Еднасць будуе супольнасць. А супольнасць патрэбная кожнаму, хто жыве ў свеце. Трэба прасіць пра дар еднасці. Трэба цаніць еднасць як каштоўны Божы дар. Набліжаючыся да Бога, набліжаемся да Яго вучняў. Навука Божая – праўда веры, якую прынёс Езус, – не з'яўляецца нашым праклянцем і няшчасцем. Свет часта нападае на нас са сваёй нянавісцю і спакусамі. За гэтымі нападкамі стаіць шатан. Езус мае над ім уладу і моліцца за нас. Трэба, каб мы зразумелі, што перамога над злом залежыць не ад нас, але ад Бога. Мы толькі супольнікі ў гэтай справе. Праўда Божай навукі – гэта дарога да еднасці з Айцом. Трэба ўважліва слухаць натхненні Святога Духа. Ён нас вядзе дарогай святасці, г.зн., з'яднання з Айцом.

*– Ці памятаю, што Бог – крыніца маёй святасці?*

*– А можа, празмерна "кручуся" вакол сваёй асобы?*

*– Можа, апраўдваю і лічу свае грахі несур'ёзнымі?*

*– Можа, не магу пагадзіцца са сваёй абмежаванасцю?*

*– Можа, не маю да сябе цярплівасці?*

*– Ці не спрабую сам пабудаваць сваю святасць, не лічачыся з Богам?*

*– Ці разумею, што чым бліжэй да Бога, тым бліжэй да божых людзей?*

*– Ці цаню блізкасць да Бога ў іншых?*

*– А можа, ува мне нараджаюцца зайздрасць ці нянавісць да божых людзей?*

*– Ці клапачуся пра еднасць у супольнасці, як пра Божы дар?*

*– Ці ўсведамляю небяспеку з боку д'ябла?*

*– Ці змагаюся з д'яблам разам з Езусам?*

*– Ці саромеюся Божай навукі, калі сустракаюся з меркаваннямі гэтага свету?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Ці спазнаю Божую навуку?*

*– Ці разумею, што жыццё паводле Божай навукі прыводзіць да асвячэння і набліжае да Езуса?*

*– Ці разважаю Божае слова?*

*– Ці свядома малюся?*

*– Ці размаўляю з Езусам?*

**3 чэрвеня 2012 г. Мц 28,16-20**

Змёртвыхпаўсталы Езус уладарыць над зямлёй і небам. Ён пасылае Сваіх вучняў, каб навучалі ўсіх людзей. Каб праз хрост "пагружалі" іх у еднасць з Богам Айцом і Сынам і Святым Духам. Бог хоча, каб людзі наблізіліся да Яго, а мы павінны ім у гэтым дапамагчы. Трэба захоўваць і выконваць навуку Езуса, бо яна – дарога будавання еднасці з Богам. Яна (навука) будуе Божае Валадарства, г.зн., прабыванне Бога паміж намі. Езус дапамагае нам у гэтай справе.

*– Ці памятаеш, што Езус – пераможца? І тое, што ты на баку пераможцы?*

*– Ці гатовы ісці да людзей?*

*– А можа, нават не ўяўляеш, што Бог можа хацець шчасця для іншых людзей?*

*– Можа, сумняваешся, што Ён хоча быць з табой?*

*– Ці разумееш, што хрысціянская вера – гэта перадусім еднасць з Богам?*

*– Ці памятаеш, што абрады, звычаі і традыцыі павінны весці цябе да Бога, а не з'яўляцца мэтай самі па сабе?*

*– Ці разумееш, што еднасць з Богам – гэта жыццё паводле Яго правіл і Яго волі?*

*– Ці памятаеш, што Ён побач з табой таксама і ў справе будавання і абвяшчання Яго Валадарства?*

**7 чэрвеня 2012 г. Мк 14,12-16. 22-26**

Апошняя Вячэра – гэта першая Святая Імша. На ёй Езус бярэ хлеб і гаворыць: "Гэта Маё Цела". Бярэ віно і гаворыць: "Гэта Мая Кроў". Кожны раз, калі ўдзельнічаем у Святой Імшы, удзельнічаем у гэтай Святой Таямніцы – Перамяненні хлеба і віна. Таму ў свята Божага Цела хочам паказаць свету Езуса, у Якога мы верым. Які нас збавіў. І Які ўкрыты ў кавалку хлеба. Таму кленчым перад Ім, калі святар нясе Яго па нашых вуліцах. Бо гэта не звыклы хлеб, а Жывы Бог.

*– Ці ведаю, што такое Святая Імша?*

*– Ці стараюся кожны раз глыбей зразумець сэнс знакаў і жэстаў?*

*– Што раблю для таго, каб лепш удзельнічаць у Святой Імшы?*

*– Ці не з'яўляецца для мяне ўдзел у Святой імшы прыкрым абавязкам?*

*– Ці ўсведамляю, што сустракаюся з Жывым Збаўцам?*

*– Як рыхтуюся да Святой Імшы?*

*– Як дзякую Езусу пасля Святой Імшы?*

*– Ці прыступаю да Святой камуніі?*

*– Ці не з'яўляецца Святая камунія святатацкай, г. зн., прынятай у цяжкім грэху?*

*– Ці малюся перад Найсвяцейшым Сакрамантам?*

*– Ці слухаю Божае Слова на Святой Імшы?*

*– Ці малюся малітвамі, якія прамаўляе святар?*

**10 чэрвеня 2012 г. Мк 3,20-35**

Місія Езуса перарастае чалавечыя разуменне і чаканне. Таму Яго блізкія і старэйшыны народа прыдумваюць свае тлумачэнні таго, што адбываецца. Аднак Езус ведае, чаго хоча Айцец, і слушна гэта выконвае. Езус мае ўладу над злым духам. Ён – Бог Магуццяў, Які прыйшоў выканаць справу любові. Немагчыма выступаць супраць Моцы Святога Духа. Калі робім гэта, адкідаем Таго, Хто мае моц выкупіць нас ад смерці і грэху. Не прызнаючы Божай моцы, не можам карыстацца ёй і застаёмся сам-насам са сваім грэхам. Выконваючы волю Айца, становімся сваякамі Езуса. Трэба жыць паводле натхненняў Святога Духа, шчыра супрацоўнічаючы з Яго моцай і ласкай. Трэба карыстацца і развіваць дары, якімі ўзнагародзіў нас Пан Бог.

*– Ці не супраціўляюся Божай навуцы, не разумеючы яе моцы?*

*– Можа, не хачу прымаць некаторыя праўды веры, бо разумею іх па-людску?*

*– Ці шукаю адказаў на свае духоўныя пытанні?*

*– А можа, несур'ёзна стаўлюся да іх і яны вяртаюцца ў найбольш нечаканы час?*

*– Ці ўсведамляю сур'ёзнасць прынятага рашэння адкінуць Божую моц і Божую навуку?*

*– Ці разумею, што такі падыход – небяспека для майго жыцця?*

*– Ці не закрываю свайго сэрца на Божую ласку, не прымаючы веры ва ўладу Бога над усім?*

*– Ці веру ў мудрасць Божага Духа?*

*– Ці веру, што Ён можа адарыць мяне сваімі дарамі?*

*– Ці прымаю гэтыя дары?*

*– Якія гэта дары?*

*– Як іх развіваю?*

*– Ці стараюся выконваць волю Бога, вядомы Святым Духам?*

*– А можа, будую Божае Валадарства ў сабе і вакол сябе?*

*– Якія Божыя натхненні павінен адважна выконваць?*

*– Ці памятаю, што да гэтага мяне кліча Бог?*

*– Што зраблю, каб лепш адказаць на Божае натхненне?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# Смакоцце ад брата Войтэка

## Хлеб жытні з арэхамі

Дарагія сябры! Хачу падзяліцца з вамі яшчэ адным смачным рэцэптам. Давайце паспрабуем спячы жытні хлеб з арэхамі.

Для гэтага трэба падрыхтаваць: 1 кг жытняй мукі, 100 гр. драбленых грэцкіх арэхаў, 50 гр. семак сланечніка без лушпіння, 1 ст. л. солі, 300 мл. малака, 350 мл. цёплай вады, 6 ст. л. мёду, 60 гр. дражджэй.

Насыпаем у посуд муку, арэхі, семкі, соль. Перамешваем. Затым дадаём малако, мёд і ваду. Зноў трэба перамяшаць. Дадаём дрожджы. Усё перамешваем, каб атрымалася цеста, і кладзём у міску. Ставім у цёплае месца, каб цеста падрасло ў два разы. На гэта патрэбна дзесяці паўтары гадзіны. Яшчэ раз перамешваем цеста і кладзём яго ў формачку, загадзя памазаную маслам. Цеста павінна быць крыху больш за паловы формы. Посуд з цестам ставім на паўтары гадзіны і чакаем, каб падрасло. Яно павінна выраўняцца з берагамі начыння. Можна цяпер выпякаць.

Напачатку выпякаем у духоўцы пры тэмпературы 200 градусаў на працягу 15 хвілін, затым памяншаем тэмпературу да 180 градусаў і пячом хлеб яшчэ 40 хвілін. Урэшце атрымаюцца пахучыя цёмныя боханы.

Жадаю чытачам "Каталіцкага Весніка" добрага апетыту! Няхай на вашых сталах заўсёды будзе хлеб, а дамы поўняцца добразычлівасцю, любоўю і пашанай!

**Смачна есці!**

***Брат Войтэк з кляштара капуцынаў у Докшыцах***



## Са Святам!



*Сёлета наш пробашч кс. Францішак, які служыць у полацкай парафіі св. Андрэя Баболі, адзначае 25-годдзе святарства. Для ўсёй нашай парафіі гэта асаблівая падзея. Мы вельмі шчаслівыя, што маем такога цудоўнага пробашча, але, па праўдзе кажучы, нялёгкая яму трапілася парафія. Колькі сілы, здароўя, цярпення давялося прыкласці, каб пабудаваць касцёл на месцы старога кінатэатра. Гэта ведае толькі Пан Бог, а таксама наш пробашч і мы – парафіяне.*

*Але ўсё можна пераадолець з малітвай і Божай дапамогай. Дзякуючы вялікаму старанню і ахвярнай працы нашага святара мы маем прыгожую святыню. Сёння для ўсіх вернікаў наш касцёл і наш пастыр – гэта частка нашага жыцця. Тут, у касцёле, разам з нашым пробашчам мы радуемся, калі ёсць радасць, сумуем, калі гора, і ведаем, што толькі кс. Францішак сваім добрым словам заўсёды суцешыць і дапаможа ў цяжкую хвіліну.*

*Ад усяго сэрца хочацца павіншаваць свайго пробашча з юбілейнай датай святарства і пажадаць заўсёды, у кожную хвіліну жыцця дапамогі Пана Бога, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, духоўных сіл і каб ніколі не згасаў агонь, які асвячае дарогу пастве.*

*Ірына Праскурніна і вернікі з парафіі св. Андрэя Баболі ў Полацку*

## Хвала Хрысту!

*Нам, парафіянам з Ідолты, хочацца падзяліцца з чытачамі "Каталіцкага Весніка" ўражаннямі са святочнай Імшы ў гонар нараджэння нашага святара Генадзя Добрука. Хоць гэта і было ў будні дзень, 26 красавіка, але шмат вернікаў прыйшло, каб павіншаваць свайго святара, выказаць яму словы падзякі за яго працу, за аддანасць Богу, за разумныя казанні.*

*Ад усяго сэрца складалі віншаванні нашыя дзеці. Таксама прыехалі святары з іншых парафій і маліліся разам з намі да Пана Бога, каб Ён адарыў нашага пастыра моцным здароўем душы і цела, каб наш святар яшчэ многія гады працаваў на хвалу Пана і вёў нас нялёгкім шляхам у Нябеснае Валадарства!*

*Вернікі з парафіі Ідолта*

## Віншаванне святару!

*Шчыра віншуем нашага шаноўнага ксяндза-дэкана Кшыштафа Сілкоўскага з 30-годдзем святарства, якое ён адзначыць 17 мая. У 1982 годзе распачаў сваю святарскую дзейнасць кс. Кшыштаф. Амаль 10 гадоў працаваў у місіі ў Заіры, у Афрыцы. З 1992 года – у Беларусі. Яго намаганнямі ў 1992 годзе ў нашым пасёлку пабудаваны касцёл Узвышэння Святога Крыжа. Пры касцёле маюцца плябанія і пакой для заняткаў па рэлігіі. Менавіта з таго часу шмат людзей знайшлі дарогу да Бога.*

*Нашым чэрствым душам патрэбна было гаючае святое слова. Мы ідзём у касцёл, каб ачысціць свае сэрцы, стаць лепшымі, дабрэйшымі, навучыцца думаць пра вечнае. Кс. Кшыштаф дапамагае нам паверыць, што можна выправіцца і жыць паводле запаведзяў Езуса Хрыста.*

*Нашага святара вельмі любяць дзеці, моладзь. Кс. Кшыштаф праводзіць з імі экскурсіі, гутаркі, спявае рэлігійныя песні. Мы, парафіяне, удзячныя Пану Богу, што ў нас такі святар, праз якога пазнаём Бога, да якога хочацца звяртацца і ў радасці, і ў горы, бо ён заўсёды зразумее і падтрымае. Дзякуем шаноўнаму ксяндзу-дэкану за яго дабрыню да нас, жадаем яму моцнага здароўя і Божага блаславення. Няхай Усемагутны Бог асвеціць сваёй ласкай зямны шлях кс. Кшыштафа!*

***Парафіянка Вера Рабіза***

## Ад шчырага сэрца

*15 мая пробашч парафіі Св. Язафата ў Канстанцінаве кс. Генадзь Рэйшэль адзначыць 8-ую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Шаноўнаму ксяндзу Генадзю складаем сардэчныя пажаданні стойкасці на святарскім шляху, зычым шмат сіл і запалу ў абвяшчэнні Божага Слова, прыгожага плёну ў душпастырскай працы, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай!*

*Шчыра дзякуем за адданую службу Богу і людзям, за добрае сэрца, любоў і цярплівасць да нас.*

*Удзячныя парафіяне*

## Поздравление ксендзу Владимиру Шимковичу!

*Многоуважаемый кс. Владимир! Поздравляем Вас с 7-ой годовщиной вступления в сан священника! Вы сейчас несёте службу вдалеке от нас, в г. Дубровно. Но мы помним Вас, любим и низко кланяемся за Вашу любовь к Богу и людям. Желаем Вам быть «ангелом»-вестником Бога, вселять в души Божьи заповеди, иметь Божью помощь в строительстве храма людских душ. Пусть Матерь Божья оберегает и ведёт Вас! Здоровья, терпения, успехов!*

*С уважением, от имени прихожан каплицы д. Саутки – Алла Протас*

## Шаноўны ксёндз Яцэк Хутман!

*Сардэчна віншуем Вас з прыгожымі юбілеямі: 40-годдзем з дня нараджэння (29 мая), 15-годдзем атрымання Сакраманту святарства і 10-годдзем працы ў нашай парафіі.*

*Вы прыбылі да нас у свята Маці Божай – апякункі Беларусі – і робіце ўсё, каб ушанаваць Яе годнасць у нашым касцёле ў абразе Маці Божай Чанстахоўскай, каб прывесці ў касцёл Яе дзяцей. Вы адкрываеце нам праўду веры, самі з'яўляецеся ўзорам служэння Богу і людзям.*

*Дзякуючы вашаму таленту святара і самаадданай працы парафія ўзбагацілася духоўна і матэрыяльна, касцёл набыў свой велічны і прыгожы выгляд, заззяў усімі ліхтарамі парк перад ім.*

*Нізкі паклон Вам за цудоўныя словы навукі, за навучанне і выхаванне моладзі, за клопаты аб жывых і памерлых парафіянах, за творчую і плённую працу на карысць Касцёла і нашай Беларусі.*

*Здароўя, шчасця, светлай радасці, апекі і шчодрай ласкі Маці Божай Вам і Вашым родным, духоўнай і фізічнай моцы, многіх гадоў жыцця!*

*Са шчырай малітвай за Вас – парафіяне касцёла Св. Яна Хрысціцеля, аграгарадок Камаі*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3959

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2600 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.05.2012 г. у 02.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ